


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

16 сакавіка 2001 года

№ 11 (308)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Помнік Міколу Ермаловічу

МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе ўзвядуць помнік гісторыку, пісьменніку і літаратуразнаўцу **Міколу Ермаловічу** і ўсталююць мэмарыяльную дошку на доме, дзе ён жыў.

Заснаваны фонд памяці М. Ермаловіча. Рашэнне пра яго ўтварэнне прынятае ў сталічным Доме літаратараў на вечарыне, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння і гадавіне трагічнай смерці вучонага. Яе арганізавалі гарадскі культурна-асветны клуб «Спадчына» і Саюз пісьменнікаў.

Маркуецца стварыць настольны медаль з выявай гісторыка. Ім будуць адзначацца найбольш вядомыя прадстаўнікі нацыянальнай культуры.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Тэлевізар у падарунак

ВАЛОЖЫН. 7 сакавіка ў мясцовую школу-інтэрнат прыехалі жонкі паслоў – школа знаходзіцца пад патранажам Міністэрства замежных спраў.

Сярод гасцей былі жонкі паслоў Вялікабрытаніі **Лінда Келі**, Расіі – **Эльвіра Далгова**, Арменіі – **Ніна Аруцюнян** і прэзідэнт міжнароднага клуба жонак дыпламатычных работнікаў амерыканка **Меліндa Кунсштатэр**.

У падарунак жанчыны прывезлі каляровы тэлевізар і абяцалі прыязджаць сюды яшчэ.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Новы Дом культуры ад літоўцаў

АСТРАВЕЦ. У нядзелю ў Рымдзюнах адкрыецца Дом культуры. Загадчыца раённага аддзела культуры **Данута Чарнушэвіч** гаворыць, што ў вёсцы за літоўскія сродкі пабудаваны цэлы комплекс. Ужо працуюць дзве беларуска-літоўскія школы. А ў Доме культуры размесціцца бібліятэка і клуб.

Намеснік старшыні райвыканкома **Ірына Шляхтун** удакладняе, што пачыналася будаўніцтва цэнтра культуры сумесна Беларуссю і Літвой. Акрамя названага, збудаваныя інтэрнат і сталоўка, якія ўваходзяць у школьны комплекс.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### Немцы едуць не святкаваць

ВАЛОЖЫН. У сераду на юбілейную сустрэчу ў раён прыедуць прадстаўнікі Хрысціянскага Саюза маладых людзей Германіі. Сёлета спаўняецца 10 год з пачатку супрацоўніцтва Валожыншчыны з гэтай арганізацыяй. Немцы вызначаць канкрэтныя школы раёна і дзяцей, якім патрэбна аздараўленне за мяжой.

З дапамогай Хрысціянскага Саюза за 10 год аздараўіліся больш за 1,5 тысячы валожынцаў, атрымалая гуманітарная дапамога (45 транспартных канвояў на 1,6 мільёна марак). Немцы пабудавалі царкву ў Дорах, адрамантавалі дахі ў двух школах і зрабілі ацяпленне яшчэ ў дзвюх школах раёна.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Лепшыя школы на Мядзельшчыне

МЯДЗЕЛ. Школамі года ў раёне сталі Заняўская (сярод базавых) і СШ к. п. Нарач (Купа).

У гэтай сярэдняй школе паглыблена вывучаюць замежныя мовы, клуб «Абуджэнне» з'яўляецца членам Асацыяцыі клубаў UNESCO. Лепшыя школы вызначаюць у раёне ўжо трэці год, і школа ў курортным пасёлку пастаянна была ў ліку прызёраў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 17 сакавіка**

**Мінск**
-1 – -2°С (уначы)
1 – 4°С (удзень)



**Вільня**
-4°С (уначы)
3°С (удзень)



**Нядзеля, 18 сакавіка**

**Мінск**
-2 – -3°С (уначы)
-1 – 4°С (удзень)



**Вільня**
-4°С (уначы)
4°С (удзень)



# Дапамажыце пенсіянеру

**МАЛАДЗЕЧНА. Адзінокім састарэлым людзям не пазайздросціш. Пенсіі не заўсёды хапае на хлеб і малако, адшукаць дадатковы заработак пры цяперашнім беспрацоўі цяжкавата.**

Вось і даводзіцца людзям сталага веку нароўні з «бамжамі» збіраць па сметніках кардон ды паперу. Даходы, кажуць, дастаткова вялікія – у параўнанні з пенсіямі ды заробткамі.

Састарэлых цяпер падзяляюць на «проста» адзінокіх (без сваякоў і блізкіх) і тых, хто жыве адзін (дзеці далекавата). Першых у горадзе больш за 1,5 тысячы, другіх – не менш 1 тысячы.

Нават работнікі сацыяльных службаў не могуць даць дакладныя лічбы. Пастаянна ідуць змяненні ў статусе людзей. І амаль заўсёды ў горшы бок. Каб не служба сацыяльный абароны, не цэнтр дапамогі сям'і і дзецям, маламаёмным было б значна цяжэй. Толькі сёлета 370 маламаёмных маладзечанскіх сем'яў атрымалі аднаразовую дапамогу (калі месячны даход на чалавека не перавышае 25–27 тысяч рублёў), больш за 100 – адрасную (даход на чалавека не перавышае 18998 рублёў).

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



**Маладзечна. Ля смеццезборнікаў цяпер не толькі бамжы.** Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Ваш погляд на ўвядзенне новых аўтобусных маршрутаў?

**МАЛАДЗЕЧНА. Аўтобусны парк №4 з панядзелка ўвёў тры хуткасныя гарадскія аўтобусныя маршруты. Гэта стала тэмай чарговага апытання.**



**Аляксандра Шыла, цырульнік:**
– Не маю ніякага дачынення да новых маршрутаў, бо не ездзіла на іх. Калі б спяшалася ці не было б іншых аўтобусаў, паехала б і на гэтых. Нягледзячы на падвоеную плату. Што зробіш?



**Ірына Бурачонак, санінструктар:**
– Адмоўна. 14-ы аўтобус не задавальняе па фінансавых прычынах. У мяне ёсць праязны, чаму я павінна яшчэ і даплачваць? Па рабоце я бываю штодзённа у 5–6 месцах, а з маім заробткам у 47 тысяч і так трэба эканоміць.



**Міхаіл Мухарскі, вадзіцель аўтобуса маршруту №13:**
– Бензін палім і ўсё. Які гэты маршрут хуткасны, звычайная "пяцёрка". Той час, што эканомім на дарогах у цэнтры, губляем на выбоінах ля аўтапаркаў, таму час руху "пяцёркі" і "трынаццаткі" прыкладна аднолькавы. Сёння езджу пусты, людзі не заходзяць. З "дарагіх" маршрутаў добра разгружала пасажыраў "васьмёрка", але пакуль людзі да яе прывыклі, яна таксама ездзіла пустая.

**Ганна Більдзюкевіч, кандуктар «трынаццаткі»:**
– Насмешку зрабілі людзям. Маршрут трэба здымаць і ўсё. Лепш бы хадзіла дадатковая "пяцёрка". Учора ў той жа "пятнаццатцы" 5–6 чалавек сядзела, а "адзінаццатка" была бітком. Выручку сваю не збяру, ад канцавой да канцавой прадала 2 поўныя і 6 ільготных білетаў. Ды і людзі абураюцца, бо няма толку з гэтых маршрутаў.



**Аляксандр Воўкаў, вадзіцель аўтобуса:**
– Адзіная перавага для пасажыраў – няма цісканіны, ніхто не адарве гузікі. Не ведаю, якую выручку прыносяць новыя маршруты, але загрузка людзьмі пакуль маленькая.



**Дзяніс Каханоўскі і Алег Мяцечка, ПТВ-21:**
– Нічога страшнага няма. Адзінае пажаданне: няхай часцей ездзяць да нашага вучылішча. Самі карысталіся паслугамі 13 і 14 маршрутаў. Можа, лепш было б, каб аўтобусы больш хадзілі раніцой і ўвечары. Каб людзям было зручней дабірацца на работу і з работы. Бо ў новых маршрутаў часцяком свабодныя нават месцы для сядзення.



**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Яўген СТЭЛЬМАХ (фота).**



# На білет №1 тры прэтэндэнты

Прывітанне ўсім, хто дажыў да трэцяга тысячагоддзя. Вы зноў трымаеце ў руках чарговы выпуск маладзёжнай старонкі.

Галоўная навіна – з'явіліся першыя тры прэтэндэнты на білет "Маладзёжнага клуба". Нагадваем, што білет атрымаюць тыя, хто 5 разоў апублікуецца ў "Альтанцы". Акрамя маральнага задавальнення, уладальнікі білета ўбачаць сябе на дошцы гонару.

Становішча пасля трох выпускаў "Альтанкі" наступнае:
1. **Мікалай Хадасевіч**, Беразінскае – 4 публікацыі
2. **Сяргей Аўсянік**, Маладзечна – 3 публікацыі
3. **Алег Гаруновіч**, Маладзечна – 3 публікацыі

Магчыма, у наступным нумары нехта з іх увойдзе ў нашу гісторыю.

Сёння дэбютуюць адзінаццацікласнік **Дзмітрый Альфер**, васьмікласніцы **Юля Шупенька**, **Алена Сергіевіч** (усе САШМ), вучаніца 11-га класа СШ №12 **Вольга Трубач**.

Моладзь рэгіёна, ядnайся і прыходзь да мяне!

**Твая «Альтанка».**

■ ПРАБЛЕМА

# Падлеткам лепш устрымацца ад гульняў

**Сёння камп'ютэрам карыстаюцца амаль усе, але не так даўно яго можна было знайсці толькі ў лічаных людзей. Цяпер моладзь вывучае ЭВМ са школы: уведзены прадмет "інфарматыка". Упершыню ён з'явіўся ў 1985–86 гадах. Тады на ўвесь горад быў адзін камп'ютэрны клас у СШ №10.**

– У той час нават рэспубліканскія алімпіяды па інфарматыцы складаліся з тэорыі. Адказы на пытанні мы (у той час Аляксандр вучыўся ў 11 класе) пісалі на паперы. А практычнай часткі (работы на камп'ютэры) не было за няйменнем тэхнікі, – расказаў нам **Аляксандр Буслаўскі**, выкладчык інфарматыкі ў маладзечанскай гімназіі.

**– Малады педагог носіць акуляры...**

– Я зрок яшчэ ў дзяцінстве сапсаваў чытаннем. Камп'ютэр таксама не ідзе на карысць вачам. А ахоўны экран, што стаіць на маніторы, змяншае яго шкоднае ўздзеянне ў некалькі разоў. Таксама існуюць медыцынскія абмежаванні. Напрыклад, юнак не павінен праводзіць за маніторам больш за 2–4 гадзіны ў дзень. Тамсама вядома, што нельга лежачы чытаць. Але хто слухае гэтыя парады дактароў?

Калі вы жадаеце набыць камп'ютэр, то не трэба гнацца за таннасцю. Купіце тую рэч, якая будзе доўга вам служыць (хоць камп'ютэрныя тэхналогіі і ўдасканальваюцца па некалькі разоў на год). Сёння добры кампютэр каштуе каля 500 долараў. Але можна знайсці і за 100, і за некалькі тысяч долараў. Аляксандр Буслаўскі сцвярджае, што Internet – карысная і цікавая рэч. А вось камп'ютэрныя гульні дрэнна адбіваюцца, асабліва на падлетках. Яны губляюць сувязь з наваколлем, дзіўна сябе паводзяць. Таму ад гульняў, пакуль ваша псіхіка не стане больш моцная, лепей устрымацца.

**Алег ГАРУНОВІЧ і Дзмітрый АЛЬФЕР, Маладзечна.**

# Парады «бывалага»

**Няхай вы нейкім чынам трапілі, паступілі, апынуліся ў навуковай установе, а асабліва гэта датычыцца тых, хто прыехаў з іншага горада і вырашыў жыць у інтэрнаце. Што ж вас там чакае? Ці не задаваліся вы яшчэ гэтым пытаннем, паважаныя школьнікі? А чакае вас там не што іншае, а самастойнае жыццё. І толькі. Ну, гэта я, безумоўна, жартую. На самой справе вас яшчэ там чакае шмат, шмат цікавага, пачынаючы ад засялення аж да самай першай у вашым жыцці сесіі, дзе, як кажуць, жывуць студэнты не зусім весела.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Першакурснікі Павел і Ігар: нам не страшны першы курс.**

Хачу даць некалькі парад, як сябе паводзіць, каб усё было добра.

Зусім не варта, толькі першы раз пабачыўшы сваіх суседзяў па пакоі, паказваць свой суровы і вольналюбівы характар, калі яшчэ, пры гэтым, вашыя суседзі са старэйшых курсаў. Не вельмі прыемна ім адчуваць сябе некалькі ніжэйшымі за вас і быць гасцямі ў вашым ужо сумесным новым пакоі. Лепей спачатку некаторы час пачакаць, "адчуць" атмасферу, як кажуць, прашчупаць абставіны і, калі ўсё добра, – у бой! Пакрыху, пакрыху вы пачынайце даваць пра сябе знаць, каб яны не забываліся, што і вы тут таксама жывяце. Але даю вам параду: асабліва ўцягвацца ў гэты працэс не трэба, бо можаце атрымаць спачатку (а можа, і ўвогуле) вуснае папярэджанне. Чым скончыцца ўся справа, залежыць ад вас.

Старшакурснікі любяць, каб ім ні ў чым не адмаўлялі. Яны жывуць па прынцыпе: дай усяго і яшчэ дай лыжку. Гэта, вядома, не надта і дрэнна, бо і вы калі–небудзь будзеце такія. "Падобна да арміі?" – спытаецеся вы. Не, тут зу–у–усім усё па–іншым. Адносіны складаюцца толькі на ўзроўні размовы. Але давайце вернемся да нашай гутаркі. Можна і нават неабходна калі–нікалі частаваць сваіх, напэўна, заўсёды галодных суседзяў па пакоі. Толькі вось не заўсёды, калі яны гэтага просяць. А ўвогуле, гэта залежыць ад шырыні вашай душы і дабрыні.

Старэйшыя суседзі неадначойчы могуць прапанаваць, каб вы падмялі ці памылі падлогу, зварылі ежу, прыбралі пакой. Змагайцеся з гэтым, бо, калі ўвесь час будзеш мыць пакоі, варыць ежу і да т. п., зусім не застанецца часу на ўласнае жыццё. А яно так прагне вырваць з вашага распарадку дня як мага больш часу. І гэта зразумела, а галоўнае – прыемна!

Калі вы вельмі вялікі жартаўнік, не спяшайцеся ўсе вашыя артыстычныя здольнасці адразу адлюстроўваць на даволі вясёлых, на першы погляд, суседзях. Раптам яны не зразумеюць, як кажуць, твой "палескі" гумар. Могуць узнікнуць непрыемнасці.

І яшчэ можа быць шмат розных выпадкаў, дзе вам трэба будзе выбіраць, як сябе паводзіць у тым ці іншым выпадку. Але ніколі не забывайцеся на тое, што вам давядзецца яшчэ шмат часу жыць разам, як ні гэта сумна.

Думайце, перш чым што–небудзь зрабіць або сказаць.

Я ўпэўнены, што ў вас усіх усё атрымаецца! Прыемнага пражывання!

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Спяшайцеся вучыцца. Наперадзе не менш цікавае, але іншае жыццё. У ім большае месца зоймуць дзіцячыя калясні, але не падручнікі.**

■ ШКОЛА АБІТУРЫЕНТА

# Як паступіць на юрфак

На юрфаку БДУ конкурс больш, чым 3 чалавекі на месца. Факультэт мае тры спецыялізацыі: правазнаўства, аліталогія, эканамічнае права. Прахадны бал – 16.

На ўступных экзаменах трэба здаваць матэматыку, англійскую мову, чалавек і грамадства, беларускую (рускую) мову – па тэстах. Дарэчы, экзамен па матэматыцы можна здаць датэрмінова (у маі). Гэта каштавала каля 40 долараў у 2000 годзе. Калі адзнака вас не задавальняе, то ад яе можна адмовіцца і здаваць экзамен летам.

Як лепей рыхтавацца да ўступных экзаменаў, расказвае **Аляксандр Радзько** (студэнт 1 курса юрфака БДУ).

– Да экзаменаў па **матэматыцы** лепш за ўсё рыхтавацца з мінскім рэпетытарам. Яго заняткі хоць і каштуюць дорага (да 10 долараў), затое вы даведаецеся пра ўсе нюансы і пасткі, якія вас чакаюць на ўступным экзамене.

Да экзаменаў па **англійскай мове** можна падрыхтавацца з рэпетытарам у Маладзечне. Іх заняткі не такія дарагія (2–5 долараў за гадзіну), як у мінскіх калег. А веды – амаль аднолькавыя.

На **беларускай (рускай) мове** вас чакаюць тэсты і тэкст, у якім трэба расставіць прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Тут усё грунтуецца на веданні правілаў.

Прадмет **"Чалавек і грамадства"** лепш за ўсё рыхтаваць па аднайменным дапаможніку для абітурыентаў і школьнікаў (выдавецтва "Тэтра–Сістэм"). Па–першае, у гэтай кнізе поўны змест тых матэрыялу, які спатрэбіцца пры адказе. Па–другое, некаторыя са складальнікаў гэтай кнігі прымаюць экзамены на юрфаку БДУ. А каму не прыемна, калі іх працу "цытуюць" на памяць.

Кошт курсаў складае 85 долараў. Яны накіроўваюць вашу працу ў патрэбным напрамку. Але, шчыра кажучы, лепш гэтыя грошы аддаць на рэпетытараў, каб яны падцягнулі і вашыя слабыя бакі па прадметах.

А вось як Аляксандр Радзько апісвае свае пачуцці, калі ён паступіў:

– У першы час пасля таго, як здаў апошні экзамен, ішоў, як п'яны, не пазнаваў нават знаёмых. Шукаў увесь час нешта такое, што мне магло б перашкодзіць стаць студэнтам. Хаця ўжо дакладна ведаў, што паступіў.

**Алег ГАРУНОВІЧ.**

■ ПРАБЛЕМЫ

# Ці патрэбныя рэпетытары?

**У мінулым нумары "РГ" мы змясцілі фотаапытанне, у якім паказалі стаўленне вучняў да рэпетытарства. Сёння – працяг тэмы.**

За апошні час настаўнікі знайшлі новую крыніцу даходаў для павелічэння свайго месячнага заробатку – рэпетытарства. Найбольшым попытам карыстаюцца замежная мова, асабліва англійская, матэматыка. Крыху ў меншай ступені – фізіка, хімія, гісторыя.

Прыкладныя расцэнкі на паслугі рэпетытараў (у. а. у гадзіну)

| | Маладзечна | Мінск |
|---|---|---|
| Англійская мова | 2-4 | 2-15 |
| Матэматыка | 2 | 2-5 |
| Гісторыя | 1-2 | 1-2 |
| Хімія | 1-2 | 2 |
| Фізіка | 1-2 | 2-3 |

Вось што гавораць некаторыя настаўнікі.

Рэпетытар матэматыкі, які не пажадаў назваць для газеты сваё імя:

– Заняткі па матэматыцы каштуюць 2 у. а. у гадзіну. Працую індывідуальна з кожным. За 5 год заняткаў усе паступілі ў ВНУ.

Намеснік дырэктара СШ №12 па выхаваўчай рабоце **Ганна Найдзюк**:

– Я лічу, што ў школе дастаткова магчымасцяў для таго, каб атрымаць неабходныя для паступлення ў ВНУ веды. У школах праводзяцца дадатковыя заняткі, курсы. Добраму вучню рэпетытар не патрэбны. Лічу, што падрыхтоўчыя курсы больш эфектыўныя, чым заняткі з рэпетытарам.

Настаўніца прадмета "Чалавек, прырода, грамадства" **Любоў Шанталінская**:

– Я стаўлюся да гэтага спакойна. У многіх вучняў ёсць прабелы ў ведах. А як яны будуць іх запаўняць – самастойна ці з рэпетытарам – гэта іх асабістая справа.

Як бачым, і сярод настаўнікаў, і сярод вучняў меркаванні розныя. Але ўсе сыходзяцца ў адным: усе сродкі добрыя, каб паступіць. А пераможцаў, як вядома, не судзяць.

**Падрыхтавала Вольга ТРУБАЧ, Маладзечна.**

■ ХІТ–ПАРАД

# Тату, Земфіра, ДэЦл

Апытанне сярод маладзечанскіх школьнікаў наконт вызначэння лепшай рускамоўнай кампазіцыі дало наступныя вынікі: на першае месца выйшла Тату.

Хітом-пераможцай стала песня "Я сошла с ума". Далей на п'едэстале – Земфіра ("Кукушка"), ДэЦл ("Кровь моя кровь"). Чацвертае месца заняла група БІ-2 ("Серебро"). На пятым аказаўся Лявон Вольскі з кампазіцыяй на беларускай мове "Тры чарапахі". Замкнулі шасцёрку хлопцы з групы "140 ударов в минуту" ("У меня есть ты").

**Падрыхтавалі Юлія ШУПЕНЬКА і Алена СЕРГІЕВІЧ.**



# Паварушы мазгамі, №46

Здаровыя былі!

Даміно-пасьянс з мінулага задання мае наступнае рашэнне:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 6 | 0 | 6 | 6 | 0 | 0 |
| 4 | 5 | 2 | 6 | 6 | 5 | 1 |
| 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 3 |
| 0 | 5 | 1 | 4 | 1 | 3 | 2 |
| 2 | 5 | 2 | 6 | 1 | 1 | 1 |
| 3 | 1 | 5 | 3 | 4 | 2 | 2 |
| 3 | 2 | 6 | 0 | 0 | 0 | 2 |
| 5 | 3 | 3 | 4 | 0 | 1 | 4 |

З задачкай добра справіліся М.М. Адамовіч, **Арцём Бабарыкін, Віталь Бядрыцкі, Руслан Гасанаў, Віктар Грыгор'еў, Юрый Жыганаў, Аляксандр Кікар, Вольга Каркоцкая, Андрэй Каўзовіч, Саша Кендыш, Павел Красненка, Сяргей Кузняцоў, Мікалай Ліннік, Дзіма Лубнеўскі, Міхаіл Місуна, Аляксандр Малевіч, Дзмітрый Нядзвецкі, Дзмітрый Пакладок, Вольга Палівода, Наталля Прушак, Людміла Сакаленка, Каця Северына, Сяргей Смалонскі, Гражына Станкевіч, Вольга Страх, Мікалай Стрэж, Васіль Хіло, Ганна Шупенька, Шыцік Ганна, Юрый Юхневіч**.

А шчаслівчыкам аказаўся **Віталь Бядрыцкі**.

Менавіта яму дасталіся разыграны ў латарэі прыз і ганаровы дыплом.

Віншую з перамогай, зычу шчасця і запрашаю ў рэдакцыю!

Цяпер я прапаную іншую задачку.

## Складзі квадрат

Выражце з кардону дзевяць квадрацікаў памерам 3х3 клеткі і нарысуйце на іх фігуркі так, як гэта пададзена ніжэй.



А цяпер складзіце з гэтых квадрацікаў квадрат 9х9, на вялікіх дыяганалях, вертыкалях і гарызанталях якога б было роўна па адной аднолькавай фігурцы кожнага віду.

Поспехаў.

**Напішы адказы на паштоўцы** і дашлі на адрас рэдакцыі. Падпішыся на паштоўцы. **Адказы прымаюцца да серады.** Сярод тых, хто знойдзе правільнае рашэнне абодвум галаваломкам, будзе разыграны прыз. Шчаслівчыку ўручым таксама дыплом. Не сярдуй, калі правільна адкажаш на заданне, а не знойдзеш прозвішча сярод прэтэндэнтаў на прыз. Проста ты даслаў рашэнне не на паштоўцы.



Якім ПЯРЭЧКА.

## Дошка гонару



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Гражына Станкевіч вучыцца ў 7-м класе сярэдняй школы №4 Вілейкі і захапляецца разгадваннем забаваў з "Рэгіянальнай газеты". Мінулы раз прыз ад "РГ" дастаўся менавіта ёй.**

## Гараскоп 19 – 25 сакавіка



**Авен**
(21.03–20.04)

Перыяд пройдзе пад дэвізам "аздараўленне ва ўсім": у стасунках з людзьмі, у ацэнцы рэчаіснасці і, самае галоўнае, у адносінах да ўласнай асобы. Самаапраўданне адыдзе на другі план, патрабавальнасць да сябе і партнёраў, а таксама якасці сваіх дасягненняў павысіцца. А 21-га сакавіка – дні свежых ідэй.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Не бойцеся абнаўленняў, якія акажуцца проста непазбежнымі. Дарэчы, нават калі нічога падзейнага некаторыя з вас не заўважаць, то змяненне ўнутранага стану адчуюць усе. 25-га сакавіка – незабывальная рамантычная сустрэча.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Вам трэба будзе працягваць унутраную работу на шляху ўмацавання ўласных пазіцый і высвятлення стасункаў з дзелавымі партнёрамі. Магчыма, вы самі не такія ўжо бязгрэшныя, як можа здавацца. Магчыма, вы далі некалькі пустых абяцанняў... Але ўжо 25-га сакавіка адкрые перспектывы добрага супрацоўніцтва.



**Рак**
(22.06–23.07)

Чым больш увагі ў гэты перыяд вы ўдзеліце сабе і свайму псіха-фізічнаму стану і здароўю, тым большага зможаце дамагчыся на грамадскім фронце. 25-га сакавіка прынясе прыемныя сюрпрызы, тым больш, ні на што асабліва нечаканае вы не будзеце настроены. Пачатак "рэвізіі" жыццёвых планаў.



**Леў**
(24.07–23.08)

Будзьце надзвычай асцярожныя і абачлівыя паблізу 21-га сакавіка, калі энергетычныя патокі, як вашы ўласныя, так і вашых партнёраў па жыцці ці па бізнесе будуць настолькі высокія, што могуць разбурыць незнарок тое, для чаго непатрэбная рэканструкцыя. Павышаная ўзбуджальнасць, нават істэрычнасць.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Узважана і асцярожна пражывіце перыяд паблізу 21-га сакавіка, калі абставіны, людзі і проста нейкія невядомыя сілы будуць усяляк "кваліцца" на ваш дом. Чым акуратней ва ўчынках вы будзеце, тым больш абароненая будзе ваша сям'я.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Усведамленне неабходнасці рэгулярна займацца сваім здароўем прыйдзе 21-га сакавіка. Калі абследаванне ці візіт да ўрача назначаныя вам менавіта на гэты дзень, не адмяняйце яго. Ужо з 22-га сакавіка многае пойдзе лягчэй, вы дакладна вызначыцеся са сваім станам.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Фінансавыя праблемы чакаюцца каля 21-га сакавіка, калі магчымыя нечаканыя страты ўкладзеных грошай або звычайныя кражы, у тым ліку, і кватэрныя. Паклапаціцеся пра ўласную бяспеку і надзейныя замкі ў дзвярах і сейфах. А да 25-га сакавіка абвострацца пытанні здароўя, арганізм запатрабуе клопату.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Аж да 21-га сакавіка ваша асабістая энергетыка будзе нарастаць, а прысутнасць фактару "разбурэння", як і ў Львоў, можа значна нашкодзіць справе. У гэтыя дні лепш не сутыкацца з прадстаўнікамі вогненных знакаў (Авен, Леў), справа можа дайсці да цяжкага канфлікту і нават бойкі. 25-га – лепшы дзень перыяду.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Многаму, што адбудзецца 21-га сакавіка, вы шчыра і не без смутку здзівіцеся, але не засмучайцеся – гэтыя "прывітанні" з мінулага не павінны ўплываць на сапраўдны, даволі прадуктыўны для спраў і навучання перыяд. Тым больш, 25-га сакавіка вы адчуеце незвычайную ўвагу з боку любімых і блізкіх людзей.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Маёмасныя цяжкасці дасягнуць кульмінацыі 21-га сакавіка, калі без дапамогі збоку вам проста не абысціся. Вадалеям, якія знаходзяцца ў стане разводу, давядзецца прымірыцца з частковай стратай маёмасці.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Перыяд дае добрыя магчымасці для сацыяльнай самарэалізацыі, галоўнае – вызначыцца, што вам сапраўды неабходна, каб не пайсці зноў па неправільным шляху. Усе будучыя дні вы можаце лёгка і нязмушана працаваць з людзьмі і да 25-га сакавіка, магчыма, вырашыце некаторыя матэрыяльныя праблемы.

## КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



**Па гарызанталях:** **1.** Цёплая шапка з вушамі. **4.** Ноша, якую можна панесці, абхапіўшы рукамі. **7.** Пакрытая лёдам гарызантальная пляцоўка для катання на каньках. **9.** Моцны спіртны напітак з соку цукровага трыснягу. **10.** Музычны інтэрвал. **11.** Жыхары краіны. **12.** Кавалак жалезнай руды або сталі, які мае ўласцівасць прыцягваць да сябе жалезныя або стальныя прадметы. **14.** Невялікая, вельмі рухавая рыба. **18.** Грашовая адзінка ў Італіі і Турцыі. **20.** Чалавек, які любіць модна апранацца (разм.). **21.** Крупы з крухмалу сагавай пальмы. **22.** Устройства, на якім гушкаюцца для забавы. **24.** Частка акіяна. Праект, праграма якога-небудзь дзеяння. **26.** Род, радавая абшчына. **27.** Паўднёваазіяцкае трапічнае ядавітае дрэва. **31.** Перапончатакрылае насякомае з джалам. **32.** Афіцыйнае пасяджэнне для абмеркавання якіх-небудзь спецыяльных пытанняў. **33.** Светлавы круг, ззянне вакол ярка асветленага прадмета. **34.** Высушаная кара некаторых трапічных раслін, ужываецца як прыправа. **35.** У старажытнасці: род дзяржаўнага аб'яднання.

**Па вертыкалях:** **1.** Вадкасць з рэзкім кіслым смакам. **2.** Тонкі кароткі цвічок, якім прымацоўваюць паперу да чаго-небудзь цвёрдага. **3.** Род папугаяў з доўгім чубам і моцнай дзюбай. **5.** Магазін, лаўка. **6.** Моцнае жаданне піць. **8.** Найдрабнейшая часцінка хімічнага элемента. **13.** Чырвона-буры налёт на паверхні жалеза. **15.** Пазнейшы перыяд каменнага веку (VIII–III тысячагоддзе да н. э.). **16.** Час, перыяд, тэрмін. **17.** Важак якой-небудзь банды, шайкі і пад. **19.** Мусульманская рэлігія. **21.** Парнакапытная жывёліна сямейства пустарогіх. **23.** Апавядальны род літаратуры. **25.** Салодкае печыва на мёдзе з прыправамі. **27.** Вялікая круглая пляцоўка пасярэдзіне цырка. **28.** Мужчынскі галаўны ўбор у мусульман. **29.** Шлях зносінаў, лініі сувязі, што праходзяць уздоўж лініі фронту. **30.** Накладная прычоска.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў №10**

КАТАВАСІЯ.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8330 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№11 (308) 16.03.2001**. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 15.03.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус". **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»